

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**У Інтэрнэце нарэшце зьявіўся сайт, прысьвечаны гісторыі Магілёва. Так атрымалася, што мне ён патрапіў на вочы пасьля таго, як я паглядзеў афіцыйны сайт Магілёўскай вобласьці. Паведамляе ён, зразумела, пра напружаную народную барацьбу зь літоўскімі князямі, польскімі фэадаламі, каталіцкім касьцёлам і пра радаснае яднаньне з Расейскай імпэрыяй. Савецкая ўлада, паводле яго, прынесла нам шчасьце і новае жыцьцё. Зразумела таксама, што ўся гэтая інфармацыя пададзеная выключна па-расейску. Што да новага сайту, то акрамя неблагога аздабленьня ды займальнай формы расповяду, аўтары парупіліся зрабіць беларускамоўную вэрсію побач з руска- і ангельскамоўнаю. Можна хіба што паўшчуваць стваральнікаў за памылкі ў беларускай мове. Але іх лёгка выправіць, чаго і жадаю людзям, што зрабілі такую патрэбную справу.**

**На працягу апошніх 4-5 месяцаў амэрыканскія спэцыялісты разам з нашымі дасьледвалі стан здароўя чэрыкаўскіх жыхароў. Высьветлілася, што расьце колькасьць захворваньняў шчытападобнай залозы. Некалькім хворым былі зробленыя апэрацыі, 3 чалавекі атрымалі пасьведчаньні аб інваліднасьці. Мэдыкі з сумам канстатуюць, што ўлады праводзяць палітыку рэкультывацыі раней закансэрваваных земляў, забруджаных радыяцыяй. Быццам ня ведаюць, што гэта павялічвае шэрагі хворых – у той час, калі ў краіне назіраецца відавочнае пагаршэньне здароўя нацыі.**

**У гарвыканкаме абмяркоўвалі пытаньні гарадзкога гандлю. Аказваецца, у нас на сёньня амаль 1000 крамаў і шапікаў ды 250 прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня – сталовак і буфэтаў. Аднак абслугоўваюць яны жыхароў дрэнна, і арганізаваны сам гандаль амаль усюды па-савецку. Прагучала адпаведная крытыка й на паседжаньні. Было вырашана ўжыць шэраг адміністрацыйных захадаў. Канешне, правесьці поўную прыватызацыю тых буфэтаў ды сталовак, адпусьціць на вольную дарогу дзяржаўныя крамы, – гэтага ад цяперашніх чыноўнікаў чакаць не выпадае, бо тут патрэбная грамадзянская мужнасьць.**

**Новы кіраўнік "вэртыкалі" у вобласьці, Барыс Батура, пачаў з таго ж, што і ўсе ягоныя папярэднікі: правёў нараду з кіраўнікамі выканкамаўскіх аддзелаў і службаў. Падчас нарады ён паведаміў сакрамэнтальнае: "Так жыць нельга!". Маўляў, да сёньня працавалі дрэнна, а вось цяпер пачнем усё рабіць па-новаму. Б.Батура загадаў: інфляцыі – не перавысіць у наступным месяцы цяперашнія паказчыкі; кадрам – каб пачалі працаваць лепей; усім, хто мае адпаведныя дачыненьні – павялічыць аб'ёмы зьнешняга гандлю...**

**У Магілёў наведвалася прадстаўніца адной з найбуйных і аўтарытэтных грамадзкіх арганізацыяў Швэцкага каралеўства – Форума СЮД. Падчас шэрагу сустрэчаў з прадстаўнікамі мясцовых грамадзкіх арганізацыяў абмяркоўваліся праблемы фармаваньня, так бы мовіць, інфраструктуры "трэцяга сэктару". Было дамоўлена наладзіць паўнацэнную сувязь паміж швэцкімі й мясцовымі NGO з мэтаю зьдзяйсьненьня ў будучыні канкрэтных, карысных для людзей праектаў.**

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

**Дз.АБАДОЎСКІ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ**

## Суд, карцэр, галадоўка, камэра – усё бязь зьменаў...

***Разгледжаная на пачатку тыдня абласным судом касацыйная скарга на рашэньне Цэнтральнага раённага суда г. Магілёва – аб працягу ўтрыманьня Д.Абадоўскага за кратамі – засталася без задавальненьня.***

Суд першай інстанцыі, як, магчыма, ужо ведаюць нашыя чытачы, не прыняў у абмеркаваньне праблемы здароўя Дзьмітрыя Абадоўскага на той падставе, што ў матэрыялах справы адсутнічае мэдычная карта або якое іншае мэдыцынскае сьведчаньне. Адзіная саступка, якую для хлопца зрабілі ў турме – гэта вярнулі з карцэра ў камэру агульнага ўтрыманьня.

Тым часам ён працягвае трымаць галадоўку, аднак, на просьбу бацькі і адначасова свайго афіцыйнага абаронцы С.Абадоўскага, ужывае вадкасьці з тым, каб не нанесьці арганізму непапраўнай шкоды. Спыніць галадоўку зусім Д.Абадоўскі адмаўляецца, настойваючы на сваёй невінаватасьці ў злачынстве, якое яму інкрымінуецца *(згвалтаваньні – "ТМ")*.

Напярэдадні суда каля ягонага будынку і побач з офісам абласной пракуратуры адбыўся пікет групы грамадзкіх праваабаронцаў, да якога ніводзін афіцыйны службовец гэтых ведамстваў ня выйшаў. Пікетам былі зацікаўленыя толькі журналісты. А міліцыянты, пасьля тэлефанічнага кансультаваньня зь нейкім начальствам, нават затрымалі аднаго зь пікетоўцаў – Валадара Цурпанава.

Дзьмітры Абадоўскі і ягоныя абаронцы падалі наглядальную скаргу на дзеяньні сьледзтва і суда ў абласную пракуратуру. Пра вынікі яе разгляду стане вядома не раней наступнага тыдня.

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК праўных праблемаў*





## Імша за Беларусь... зь песьнямі па-расейску

*На ўгодкі Слуцкага збройнага чыну ў касьцеле сьв. Станіслава адбылася сьвятая Імша за Беларусь. На Імшы прысутнічалі прадстаўнікі шэрагу дэмакратычных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў.*

Нягледзячы, аднак, на тое, што Імша была за Беларусь, моладзь, якая арганізоўвала нядзельным вечарам музычны акампанэмэнт, сьпявала пад гітару песьні й чытала некаторыя чытаньні па-расейску. Тыдзень таму замоўнікі мерапрыемства спрабавалі дамовіцца з гэтымі людзьмі пра тое, каб хаця бы падчас гэтае Імшы ўсё было па-беларуску. Але тыя адказалі, што ў нас дзяржаваю прызнаецца дзьвюхмоўе, а таму пакуль ксёндз-пробашч дазваляе, яны будуць сьпяваць песьні й чытаць чытаньні на двух мовах.

Дарэчы тут трэба адзначыць, што на пачатку 90-х, у капліцы на польскіх могілках ды й у касьцёле вісеў бел-чырвона-белы сьцяг, а на касьцёльных фрэсках быў (зараз схаваны пад белаю прасьцінаю) намаляваны партрэт З.Пазьняка.

Між іншым, раней менавіта моладзь спрычынялася да таго, каб набажэнствы сталіся беларускімі. Адылі ўсе набажэнствы цяпер падзеленыя: раніца – па-польску, вечар – па-беларуску. Аднак, калі Імша з раніцы вядзецца чыста па-польску, то вечаровыя й дзённыя набажэнствы вядуцца зьмяшана, то бок па-беларуску й па-расейску, у чым у апошнюю нядзелю шаноўнае спадарства, якое прыйшло ў касьцёл, мела мажлівасьць пераканацца.

Прычым такі расклад рэчаў вядзецца ўжо гады тры й зараз парахвіянам-беларусам ужо няма месца ў касьцёле. Чуваць нават такія прапановы, каб зрабіць абавязковую імшу па-расейску.

Што гэта? Чарговае выпрабаваньне альбо сплянавая палітыка русыфікацыі Рыма-Каталіцкага Касьцёлу? Справа тут, на мой погляд, вельмі простая й палягае яна ў адсутнасьці ў краіне каталіцкай грамадзкай арганізацыі. У тых, што існуюць на месцах, няма, на жаль, і кроплі патрыятычнасьці. Ім усё роўна, на якой мове будзе праводзіцца сьв. Імша. Раней у нас існавала Беларуская каталіцкая Грамада, але яна выглядала для касьцёлу надта палітычна, таму спыніла працу.

Наогул, на Беларусі адбываецца так: калі нейкі ксёндз пачынае актыўную беларусізацыю, то ўлады пачынаюць гальмаваць ягоную працу. А заступіца за яго няма каму. Вось такія справы...

*Сяргей САКОЛЬСКІ*

## Добрая справа не бывае запозьненай?..

***Сябры Каардынацыйнае Рады дэмакратычных сілаў напрыканцы мінулага тыдня пераважнай бальшынёй галасоў прыпынілі прадстаўніцтва ў радзе Сацыял-Дэмакратычнай партыі "Народная Грамада". Гэтае рашэньне было прынятае ў фармулёўцы "за грубыя парушэньні рашэньняў Кангрэсу дэмакратычных сілаў".***

Яны, гэтыя парушэньні, адбыліся ў часе нядаўніх "парлямэнцкіх" выбараў, непасрэдны ўдзел у якіх прынялі асобныя сябры "НГ" і сам ейны лідэр М.Статкевіч, а таксама партыйныя структуры на месцах. Вядомым рашэньнем Кангрэсу дэмакратычных сілаў тое было забаронена. Такім чынам "НГ" парушыла дамоўленае адзінства, паспрыяла роспачы ў дэмакратычных шэрагах некаторых рэгіёнаў, згуляла на баку ўлады ў момант, калі ад патрыятычнай апазыцыі патрабаваўся згуртаваны супраціў.

Рэзкая крытыка такіх паводзінаў партыі М.Статкевіча і яго самога распачалася задоўга да ўзгаданага рашэньня Каардынацыйнай Рады, найперш у шэрагах самой "Народнай Грамады". Прыкладам, значная колькасьць сяброў магілёўскай абласной і шклоўскай раённай арганізацыяў "НГ" выказваецца нават за выключэньне М.Статкевіча з партыі на бліжэйшым зьезьдзе.

*Уласная інфармацыя*

## Няхай улазіны прынясуць удачу!

Мінулай суботай у Крычаве адбылася падзея, да якой уважліва паставіліся ня толькі сябры і паплечнікі своеасаблівых "імяніньнікаў", але й улада. Чальцы вядомай у краіне мясцовай праваабарончай і сацыялягічнай грамадзкай структуры "Кантакт-цэнтар" сьвяткавалі доўгачаканыя ўлазіны ў свой офіс.

Драўляна-цагляны будыначак быў набыты ў прыватнае карыстаньне. Мясцовыя дэмакраты самі зрабілі ягоны рамонт і аздабленьне, прыдатнае для працы і прыёму грамадзянаў. Усе працяглыя і фармалізаваныя перашкоды ў добрай справе пасьпяхова пераадоленыя, чаму ня менш за гаспадароў радаваліся магілёўскія партнэры з "Кола сяброў", Праваабарончага цэнтра і "Тыднёвіка Магілёўскага", што прыехалі на ўлазіны, як гаворыцца, не з пустымі рукамі. Хаця галоўным падчас імпрэзы быў добры настрой і шчырасьць усіх, хто завітаў суботнім надвячоркам у госьці да крычаўскіх сяброў-дэмакратаў.





*Фота Валадара ЦУРПАНАВА*

ПА ХВАЛЯХ РАДЫЁ “СВАБОДА”: ЛІСТЫ З КАЛІФОРНІІ

# Беларусь у Амэрыцы

(Працяг з "ТМ"№№38-41,43).

***Ці ўмеюць сабакі з Мэксыкі праходзіць праз аўтаматычныя дзьверы? Адказ на гэтае пытаньне ўплывае на прэзыдэнцкія выбары ў Амэрыцы. Так, прынамсі, лічыць адна газэта, якая абвінаваціла папулярнага сьпевака, знаёмага аднаго з кандыдатаў у прэзыдэнты, у тым, што той паддаў нагой сабаку, пры гэтым спаслаўшыся на ягонае нацыянальнае паходжаньне.***

Сьпявак апраўдваўся, што шнаўцэр, які належаў ягонай сяброўцы, прывезены з Мэксыкі і ня ведае, як праходзіць праз аўтаматычныя дзьверы ў гатэлі, таму сьпявак і прытрымаў яго нагой. Журналіст пазваніў у Мэксыку, у будаўнічую фірму, і пацікавіўся, як у краіне справы з аўтаматызацыяй уваходаў-выхадаў. Прэзыдэнт фірмы запэўніў, што ў Мэксыцы дзьверы адкрываюцца і закрываюцца аўтаматычна ўжо гадоў дваццаць. Значыць, заключыў экспэрт, і мэксыканскія сабакі могуць мець досьвед у праходжаньні праз такія дзьверы – калі, канешне, сабака, які пацярпеў пры выхадзе з гатэлю, не паходзіў зь якога-небудзь маленькага мястэчка.

Сэнс абвінавачваньня – кандыдыт на прэзыдэнта сябруе з асобамі з шавіністычнымі поглядамі, якія ўважаюць мэксыканскіх сабак за недаразьвітых. Што самае цікавае – на сёлетніх выбарах публікацыя сапраўды магла каштаваць кандыдату галасоў амэрыканскіх мэксыканцаў.

Выбарчая кампанія Аль Гора і Джорджа Буша была напружанасумнай. Я глядзеў выступы прэтэндэнтаў, рэклямныя ролікі і трое тэлевізійных дэбатаў. Пасьля дэбатаў я ведаю, за каго прагаласаваў бы сам – за Джыма Лэрэра, тэлежурналіста, якога абодва прэтэндэнты запрасілі на ролю вядучага.

Прэса даўно ўважаецца за чацьвертую ўладу ў Вашынгтоне. Сёлета я быў на вячэры для радыё- і тэлежурналістаў, на якую Белы Дом традыцыйна запрашае прэсу раз на год. Біл Клінтан ня толькі выступіў з прамовай, якую госьці ня раз перапынялі дружным сьмехам і воплескамі, але і дэманстраваў зробленыя ў Белым Доме тры рэклямныя відэаролікі, пародыю на выбарчыя абвесткі. Мне больш за астатнія спадабаўся сюжэт, у якім Клінтан агітаваў галасаваць за Аль Гора – на экране быў толькі Біл Клінтан у розных ракурсах, і голас за кадрам, які належаў таксама Клінтану, казаў, які ён разумны, прыгожы. Апошні кадар – галасуйце за Аль Гора, бо ёсьць 22-я папраўка да Канстытуцыі. 22-я папраўка абмяжоўвае прэзыдэнцтва двума тэрмінамі. Папулярнасьць Клінтана пасьля 8 гадоў небывалага эканамічнага росквіту настолькі высокая, што ён мог бы перамагчы абодвух цяперашніх прэтэндэнтаў.

Зь іншага боку, тое, што падаецца сумным, вынік якраз напружанасьці і адказнасьці за любое слова, – як у выпадку з мэксыканскім сабакам. Адразу пасьля тэледэбатаў, напрыклад, на экране зьяўлялася ацэнка так званай "каманды праўды" – экспэрты ў студыі правяралі ўсе факты, якімі апэравалі Буш і Гор, і адзначалі памылкі, перабольшваньні і няслушнасьць некаторых заяваў. У іншай студыі ўжо чакала група выбаршчыкаў, якія 'шчэ ня вырашылі, за каго галасаваць, і цяпер адказвалі, як на іх паўплывалі дэбаты. Затым сваю думку выказвалі вядучыя палітычныя камэнтатары, экспэрты і палітыкі. Кожнае слова, заява, інтанацыя і нават рух па пляцоўцы кандыдатаў на прэзыдэнта прыдзірліва ацэньваліся – ў Белы Дом дзьверы ні перад кім не адкрываюцца аўтаматычна.

Роля журналістаў у выбарчай кампаніі рэзка ўзрасла ў апошні тыдзень – сэнсацыяй стала тэлеперадача пра тое, што губэрнатар Буш быў затрыманы і аштрафаваны паліцыяй за язду ў нецьвярозым стане – 24 гады таму – і не паведаміў пра гэта раней сам.

У розных амэрыканскіх штатах галасуюць па-рознаму. У Пэнсыльваніі выбаршчыкі галасавалі рычагом – у кабіне іх столькі, колькі кандыдатаў, адзін агульнапартыйны – можна адразу прагаласаваць за кандыдатаў адной партыі, калі нехта не падабаецца, можна ўручную павярнуць іх назад.

У Каліфорніі бюлетэнь уяўляе сабой кардонную картку памерам 20 на 8 cm., разгалінаваную на пранумараваныя квадрацікі. Тут практыкуюць кампостэрнае галасаваньне – прабіваюць дзірку ў квадрацікy. Калі раптам памылка ці картка парвалася, яе можна замяніць.

У Амэрыцы няма паняцьця мінімальнай яўкі выбаршчыкаў – усе справы вырашаюць тыя, хто зацікаўлены іх вырашаць і зарэгістраваўся ў якасьці выбаршчыка. Толькі 600 студэнтаў у Стэнфардзе галасуюць сёньня. Большасьць амэрыканскай моладзі ігнаруе палітыку – толькі адзін з кожных трох маладых амэрыканцаў галасаваў на выбарах 1996 году, амэрыканцы ва ўзросьце 18-25 гадоў зьвяртаюць на нацыянальныя палітычныя справы ўтрая менш увагі за старэйшых. Папулярны моладзевы часопіс Experience (www/experience.com), адрасаваны маладым прафэсіяналам, лічыць, што хаця моладзь не галасуе, гэта не азначае, што яна абыякавая – сёньня дабрачыннай працай займаюцца на 16% больш маладых людзей, чым дзесяць гадоў таму. Прычына – выдатны эканамічны стан краіны, рэкордна нізкае беспрацоўе, адсутнасьць зьнешнепалітычных крызысаў ці войнаў. Цэнтральныя тэмы сёньняшніх выбараў – пэнсійнае забесьпячэньне, рэформа школы, ахова здароўя, – натуральна, менш цікавяць маладых.

Сёлета ў Амэрыцы дзевяць афіцыйных кандыдатаў на прэзыдэнта, але толькі два рэальныя прэтэндэнты – і шанцы Гора і Буша выглядаюць як фактычна роўныя. Таму да апошняй гадзіны ішла агітацыя за яўку выбаршчыкаў, значэньне мае кожны голас. Цяпер за гэта змагаюцца ў судах.

Выбары ў Амэрыцы – далёка ня жарты. Дэмакратыя пры блізкім поглядзе даволі працаёмістая і канкрэтная справа. Каліфарнійцы сёньня ня толькі абіраюць прэзыдэнта, але і сэнатараў, кангрэсмэнаў, судзьдзяў, сяброў розных камісіяў – усяго 12 асобаў з 38 прэтэндэнтаў.

У штаце Мэйн сёньня вырашаюць, ці дазволіць эўтаназію, а на Алясцы – марыхуану, а ў суседнім са Стэнфардам мястэчку Санівэйл – ці праводзіць флюярызацыю пітной вады. У Каліфорніі праходзіць таксама рэфэрэндум ці, дакладней, некалькі рэфэрэндумаў. Выбаршчыкі павінны ўхваліць ці адхіліць восем заканадаўчых прапановаў, якія будуць законамі штату, праводзяцца таксама лякальныя рэфэрэндумы – тут і выпуск каштоўных папераў для будаўніцтва дамоў вэтэранаў, і абмежаваньне грашовых ахвяраваньняў на палітычныя партыі і кандыдатаў, і прапанова выкарыстоўваць прыватныя кампаніі для будаўніцтва грамадзкіх аб'ектаў, перамены ў барацьбе з наркотыкамі, зьмены ў канстытуцыю штата ў справе падаткаў. Бурную палеміку выклікае, напрыклад, увядзеньне школьных ваўчараў – гэта калі бацькі будуць атрымліваць 4000 даляраў і самі вырашаць, у якую школу аддаць дзіця і грошы.

Усе патрэбныя зьвесткі можа знайсьці на 100 старонках афіцыйнай брашуры, якую выбаршчыкі атрымалі напярэдадні, ува мностве абвестак, улётак, іншых прапагандысцкіх ды інфармацыйных матэрыялах. Тут, у архівах Гувэраўскага Інстытуту, захоўваюцца матэрыялы прэзыдэнцкай кампаніі 1994 году ў Беларусі. Ёсьць цэлая тэчка матэрыялаў графа Прушынскага, праграмы кандыдатаў, улёткі Зянона Пазьняка. Адну зь іх я ўпершыню пабачыў толькі ў Каліфорніі – яна выпушчаная па-руску і называецa "Чаго Зянон ня будзе рабіць" – ня будзе разганяць калгасы, ня будзе нікога высяляць зь Беларусі, ваяваць з суседзямі, разрываць эканамічныя сувязі з Расеяй – але першым стаіць абяцаньне нікога сілком не прымушаць гаварыць па-беларуску.

Дарэчы, дапаможнік выбаршчыка ў Каліфорніі аж на 100 старонках таму, што тут дзьве афіцыйныя мовы: тэкст надрукаваны па-ангельску і па-гішпанску. Можна таксама атрымаць матэрыялы па-японску і па-кітайску. Сёлета ў верасьні белае насельніцтва Каліфорніі ўпершыню аказалася ў меншасьці – выхадцы з Азіі, Мэксыкі, Ціхаакіянскіх выспаў складаюць ўжо большую палову каліфарнійцаў.

...Ідэя ўлёткі Зянона Пазьняка – галасаваць за Беларусь можна на ўсіх мовах. Так сёньня галасуюць за Каліфорнію.

**Аляксандар ЛУКАШУК**



## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...зь Бялынычаў

***Няўдачай скончылася спроба мясцовай суполкі “Маладой Грамады” стаць на ўлік у райвыканкаме.***

Пасьля амаль месячнага разгляду дакумэнтаў прыйшоў адказ, у якім старшыня райвыканкаму Генадзь Шпакоўскі ў якасьці прычыны адмовы ўказаў на тое, што старшыня суполкі Алег Мяцеліца не прадставіў дагавор найму жылога памяшканьня й ордэр на кватэру, якая будзе юрыдычным адрасам арганізацыі. Трэба заўважыць, што Алегава сям'я засьведчыла ў адпаведным дакумэнце сваю згоду на тое, каб іхная прыватызаваная кватэра была такім юрыдычным адрасам. Таксама ў чыноўніцкім адказе напісалі, што Бялынычы – ня горад, як указалі ў звароце маладаграмадоўцы, а гарадзкі пасёлак.

Тым часам асобныя сябры моладзевай суполкі пачынаюць адчуваць на сябе пэўны ціск. Днямі дырэктарка Вішоўскай СШ падчас гутаркі з маткай 11-клясьніка Ільлі Палуды, які намагаўся арганізаваць канцэрт беларускіх бардаў, пагражала адлічыць хлопца са школы.

***Саўгас “Іскра” – першая гаспадарка ў раёне, якая расплацілася з “Магілёўэнэрга”... аўтамабілем “Ніва”.***

Энэргетыкі спагналі запазычанасьць гэтага саўгасу праз абласны гаспадарчы суд. Праўда, “іскраўцы” былі ня ў стане расплаціцца грашыма, і таму на пагашэньне доўгу пайшоў аўтамабіль дырэктара саўгасу Рыгора Жукава.

***Пасьля пэўнага пэрыяду зацішша зноў актывізаваліся "нарыхтоўшчыкі" каляровага мэталу.***

Днямі яны ўдала папрацавалі на лініі электраперадачы ў вёсцы Вялікі Кудзін, скраўшы каля 2 km проваду. Агульная сума крадзяжу вымяраецца сумай у 427 тыс. рублёў. Даведка: гэтая высокавольтная лінія была дзеючай.

**Базыль ЛІТВІНОВІЧ**

### ...з Глуску

***23 лістапада мясцовыя прадпрымальнікі, што гандлююць каля кінатэатру “Орион”, далучыліся да агульнанацыянальнага папераджальнага страйку.***

Трэба заўважыць, што ў Глуску няма свайго прафсаюзу прадпрымальнікаў, аднак інфармацыя аб страйку была атрыманая загадзя. Вялікую справу тут зрабілі недзяржаўныя газэты. Страйк падтрымалі некаторыя ўладальнікі прыватных крамаў. А наведвальнікі рынку, якія, як заўсёды, утварылі немалую чаргу за хлебам, што прывезла аўталаўка з Бабруйску, у сваёй бальшыні паставіліся да страйкуючых “чаўнакоў” з разуменьнем.

***Дарэмна глушчане “накручвалі” райвыканкамаўскія тэлефонныя нумары 25 лістапада. Чарговая “прамая лінія” з кіраўніцтвам раёну аказалася “ліпай”.***

Напярэдадні аб гэтай падзеі абвесьціла выканкамаўская газэта “Радзіма”. Аднак ня бралі слухаўкі намесьнікі старшыні Л.Клыга й В.Самуйлік, а таксама загадчык жыльлёва-камунальнага аддзелу М.Шчэрба. Між тым, пытаньні да іх у грамадзянаў былі. А нават няпоўны іхны пералік заняў бы зашмат газэтнай плошчы.

**Ігар КІРЫН**

### ...з Горак

***Днямі стала вядома, што паперы з подпісамі настаўнікаў мясцовай СШ№4 пад заяваю да кіраўніцтва краіны з патрабаваньнямі падвысіць заробкі былі канфіскаваныя намесьнікам старшыні райвыканкаму Ляшэнкам.***

У гэтыя ж дні была задаволеная просьба начальніка ўпраўленьня адукацыі райвыканкаму Л.Ягоранкі аб звальненьні па ўласнаму жаданьню. Нядаўна Леанід Кузьміч, як і многія іншыя супрацоўнікі адукацыі ў раёне, таксама паставіў свой подпіс пад вышэйзгаданай заяваю. Цяпер, калі заробак нават падвысяць, атрымліваць яго Л.Ягоранка будзе ўжо ў Маслакоўскай сярэдняй школе, дзе ён і працаваў перад прызначэньнем на кіраўнічую пасаду.

***Зь нядаўняга часу нас пачалі параўноўваць з Шкловам. Горад на вачах паўстае з руінаў і цемры.***

Прыкладам, літаральна за 3 месяцы аднавіўся “Дзіцячы парк”. На яго добраўпарадкаваньні па разнарадцы працавалі ці ня ўсе ўстановы, прадпрыемствы і школы. Зразумела, што было афіцыйнае адкрыцьцё. Аднак дзецям на гэтай імпрэзе было сумна і няўтульна: дарослыя дзядзькі, выходзячы да мікрафону, самі сябе хвалілі, самі сябе віншавалі, самі сябе ўзнагароджвалі. А хутка і сьцямнела. Дзяцей разабралі па хатах, а “афіцыйныя асобы” накіраваліся ў рэстаран на банкет.

**Ірына КАРАЛЬКОВА, Ірына КАЛЬЧЭЎСКАЯ**

## МАСТАЦКАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Век скончаецца, не спазьніцеся на сустрэчу!

...Акварэль! Хто ня ведае гэтую фарбу з свайго дзяцінства. Але ж вось – "дзіцячымі" фарбамі займаюцца вельмі сур'ёзныя дзядзькі, прычым многія – усё жыцьцё. Асабліва ўпадабалі акварэль у Віцебску. Ці з-за асаблівасьцяў дажджліва-туманнага тамтэйшага надвор'я, ці з-за адпаведнага яму мяккага і чуйнага да прыгажосьці характару, ці з-за ўплыву мастацкіх традыцыяў і віцебскай графічнай школы ў прыватнасьці, – а толькі віцебскія акварэлісты займаюцца маляваньнем вадзянымі фарбамі даўно і цікава.

Іхная творчая суполка "Віцебская акварэль" гэтымі днямі прэзэнтуе магілёўцам (салён па вул.Болдзіна) сваю аднайменную выставу. Пры блізкім знаёмстве аказалася, што тут выстаўленыя таксама творы менскіх, гарадзенскіх і магілёўскіх мастакоў, аднак жа менавіта віцьбічы задаюць тон. Сярод магілёўскіх творцаў, бадай, толькі Ф.Кісялёў выдзяляецца сваімі характэрнымі пэйзажнымі фантазыямі. А ад амаль усіх палотнаў гасьцей цяжка адвесьці вочы.

Найперш трэба адзначыць маэстра Шутава, які другім разам за апошнія 10 гадоў завітаў да нас з творчай справаздачай. Мы ізноў убачылі ягоныя "фірмовыя" мазаічна-плямістыя нацюрморты, якія ўжо сталіся ледзь не візытоўкай беларускай акварэльнай школы. На жаль, зусім рэдка выпадае магчымасьць убачыць творы выдатных майстроў – Гучкіна, Жыянка, Мяжуева, Ральцэвіча, якія працуюць у "клясычнай" акварэлі. А ўвогуле, як вынікае з выставы, акварэль яшчэ раз пацьвердзіла сваё аўтарытэтнае месца ў сучаснай жывапіснай школе. У выкананьні Ляўковіч, Купавы і Карпана акварэль набліжаецца да алейнага жывапісу. Жыянок – гэта аксамітная пастэль, а Курашова – каляровы аловак; Фалей – акрылавыя фарбы, Літвінава – "дзіцячыя" шматковыя каляжы. Выстава таксама шчодра дэманструе жанравую разнастайнасьць: партрэты і пэйзажы, нацюрморты і натурныя эскізы, абстрактныя кампазыцыі й архітэктурныя фантазіі...

Віцебская акварэль непасрэдна і "Віцебская акварэль" як выстава задаволіць самыя розныя густы і прыхільнасьці аматараў выяўленчага мастацтва. Таму сьпяшайцеся наведаць імпрэзу, бо на наступным тыдні выстава зачыняецца. А магчыма, што яна стане апошняй прыгожай кропкай у выстаўным жыцьці нашага абласнога цэнтру ў 20-ым стагодзьдзі, якое хутка сканчаецца.

**В.АЎРАМЕНКА**



# Час адмовіцца ад спажывецтва

У сярэдзіне месяца на возеры Сьвіцязь пад Баранавічамі адбыўся круглы стол прадстаўнікоў экалягічных арганізацыяў Беларусі, Нідэрляндаў і Польшчы. У шэрагу пытаньняў на ім абмяркоўваўся крытычны экалягічны стан гэтага возера, як адзінага на Беларусі, якое захавалася з даледніковага пэрыяду.

У сэмінары прымаў удзел старшыня магілёўскага Экалягічнага таварыства **Міхал ШАРАМЕТАЎ**, зь якім па вяртаньні зь Сьвіслачы гутарыў наш карэспандэнт.

***– Спадар Міхал, распавядзі, калі ласка, пра ўнікальнасьць гэтага возера***

– Возера ўнікальнае сваёй вадой. Яна крышталёва чыстая. У Сьвіслачы няма звычайных забалотаў ды чароту, вакол растуць расьліны, што дажылі ад таго часу да нашага разам з возерам. Зь ім па ўнікальнасьці можна параўнаць ну хіба што Байкал.

***– У чым ягоная праблема?***

– У нашых адносінах да прыроды. Месца прываблівае шмат людзей, якія, аднак, паводзяць сябе вельмі часта па-барбарску: тут вам і вогнішчы, і сьмецьце, і кінуты плястык.

***– А што прапанавалі ўдзельнікі круглага стала?***

– Мы падтрымалі прапанову аб абвешчаньні возера і прылеглай тэрыторыі запаведнікам. Гэта значыць, што адпачываць тут можна будзе толькі пры захаваньні адпаведных правілаў, за якімі будзе сачыць экалягічная паліцыя. Яна ж паставіць заслону браканьерству ў лясах, што прылягаюць да возера.

***– Ці ёсьць яшчэ падобныя мясьціны ў нашым Краі?***

– Колькі заўгодна. Не такія ўнікальныя, аднак вартасныя аховы, клопату і павагі. Апошнім часам экалягічная праца, зазначу – грамадзкая – палепшылася й набыла новы імпэт. Цяпер справа за ўладай. Нельга ўвесь час спасылацца на недахоп сродкаў, іншыя "аб'ектыўныя" прычыны. Надыйшоў час адмовіцца ад спажывецкага стаўленьня да прыроды і экалёгіі як такой.

**Сяржук ГІРКІН**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ




# Спажывай беларускае!

У жыцьці кожнага чалавека здараюцца расчараваньні. Аднойчы давялося мне пакаштаваць сьметанковага масла, такога ў блiскучай абгортцы з малюнкам рабой каровы. На смак – натуральны маргарын. Ну, думаю, можа на заводзе фасовачная машына памылілася, усякае бывае. А тут зайшла да сяброўкі. Яна мне і кажа: "Паглядзі, якое цяперака паскудства прадаюць!" І дастае такі самы бліскучы пачак зь лядоўні. Паглядзела я яшчэ раз уважліва на абгортку. Тут усё стала зразумелым – не выпадковасьць, а прадукт расейскай вытворчасьці. Адразу прыгадаліся размовы пакупнікоў з прадаўцамі, чутыя ў крамах:

– Скажыце, у вас згушчанае малако нашае беларускае, ці з Расеі?

– Наша.

– Добра. А то расейскае ў гарбату пакладзеш, дык не салодкае саўсім, толькі тлушч нейкі на паверхні плавае.

* * *

– А якая тут каўбаса лепшая?

– Як: лепшая?

– Ну ў каторай мяса болей!

– Гэта расейскія каўбасы, у іх наогул мяса няма.

Вось яно як вытанцоўваецца! Відаць, сасіскі іхныя таксама невядома з чаго зроблены. Бо нельга ж зварыць па-людзку: спачатку разбухаюць, пасьля лопаюцца на некалькі частак.

Дык хіба варта самому сабе праблемы ствараць? Купляць задорага, каб потым яшчэ і пакутаваць! Адзін пажылы бабруйчанін ў гутарцы з крамшчыцай вінагарэлачнага аддзелу выказаўся так:

– Дзетачка, а чаго гэтае піва такое дарагое?

– Вязуць здалёк, з самога Калінінграду.

– Дык няхай яго там і п'юць, дзе робяць!

**Тацяна БАРЫСІК**

# Хай бы нарадзілася рэчка

Добры дзень, паважаная рэдакцыя "Тыднёвіка"!

Кожную пятніцу з задавальненьнем купляю Вашую газэту ў шапіку "Белсаюздруку" і з радасьцю чытаю яе.

Я ўдзячны "Тыднёвіку" ня толькі за кампэтэнтную інфармацыю, але і за тое, што матэрыялы на старонках газэты закранаюць струны чалавечай душы. З апошніх выпускаў мне спадабаліся аповяды пра беларускія музычныя гурты. Вялікую цікавасьць уяўляюць сабою "Кніжныя навінкі".

Мне падабаецца, што ў Вас шмат матэрыялаў пра моладзь. Да таго ж, на старонках "Тыднёвіка" друкуюцца і многія гістарычныя працы, і аповяды пра жыцьцё беларусаў за мяжою і пра новы сьвет (як то аповяд А.Лукашука "Беларусь у Амэрыцы").

Такім чынам, "Тыднёвік" – не для вузкага кола людзей, а для ўсіх, хто шануе праўдзівую інфармацыю, каго цікавіць лёс Беларусі. Адно непакоіць мяне: апошнім часам "ТМ" патанчэў. Мне шкада, што Вашая газэта, напэўна, адзіная крыніца незалежнай інфармацыі на Магілёўшчыне, паменшала ў аб'ёме.

Але я ўсё ж спадзяюся, што фартуна вернецца да Вас, і Ваш ручай беларушчыны пераўтворыцца ў вялікую рэчку, як Дняпро, над якім стаіць наш Магілёў, а можа яшчэ й болей.

Калі ласка, надрукуйце ў "Тыднёвіку" мой артыкул. Можа, ён што-небудзь зьменіць у грамадзтве, у сьвядомасьці нашага народу, у ягонай думцы.

***Ваш сталы чытач Паўлюк СЕРАДА***

*Разам з гэтым удзячным словам аўтар ліста даслаў нам сваю зацемку па тэме, якая хвалюе, спадзяемся, ня толькі яго. Друкуем яе ніжэй.*

# З нашае маўклівай згоды

Мінулі часы, калі над Домам Саветаў лунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Мінулі часы ўздыму нацыянальнай сьвядомасьці. Для большасьці насельнікаў Беларусі мінулі часы, калі беларускае было даражэйшым за маскоўскае. Мінула вясна на Беларусі.

Замест яе настала восень. На месца Адраджэньня прыйшла новая хваля русыфікацыі. Пад сымбалямі даўно не існуючай рэспублікі мы вяртаемся ў "сьветлае мінулае".

На радыё йграюць бессэнсоўныя песенькі Зэмфіры ці мурлыча ў мікрафон Мумій-Троль замест беларускіх "Крыві" ці "N.R.M.".

Хуткімі тэмпамі зьнішчаюцца беларускія школкі. З новай інтэнсыўнасьцю ідзе русыфікацыя ў СМІ. Пры дапамозе перадачаў БТ я зразумеў, што побач са словамі "сьцяг" і "хвіліна" у беларускай мове існуюць "флаг" і "мінута", а слова "мэдаль", паводле спартовага дыктара, жаночага роду. Часам сустракаюцца й зусім нетыповыя для беларускай мовы словы: жара, топліва, пісьмо. Але ярчэй за ўсё сэнс палітыкі цяперашняга ўраду выказаў адзін чыноўнік: "Беларусія – наша пэрсанальная Родзіна".

Усё часьцей замест савецкабеларускай тэрміналёгіі ў пасадавых назвах, як то старшыня (абл) гарвыканкаму, можна пачуць проста расейскае: губэрнатар і мэр. Нават у крамах зьявіліся апошнім часам марожанае "Губэрнатар" і гарэлка "Губэрнская".

Чаму ж мы, беларусы, павінны саромецца свае мовы? А ці не маглі б мы назваць усё сваймі імёнамі? Давайце ўспомнім, як тое было ў Вялікім Княстве Літоўскім. Не было на Беларусі ні раёнаў, ні абласьцей. Замест гэтага існавалі паветы й ваяводзтвы. Кіраўнік ваяводзтва – ваявода, павета – староста. Галоўны ў горадзе – войт, а на вёсцы – цівун. Усё проста і зразумела.

І галоўнае. Беларусы, помніце, усе сёньняшнія зьмены адбываюцца з нашае маўклівае згоды. Толькі калі ўсе мы адчуем гэта, калі абвесьцім вайну русыфікацыі нашага Краю, калі згуртуемся ўсе разам пад нацыянальнымі сымбалямі, толькі тады, калі мы будзем жыць ідэяй Адраджэньня Бацькаўшчыны, мы станем сапраўды нацыяй, толькі тады не памрэ Беларусь!

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 47. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 30.11.2000 г. а 17.05.